# Самапомач Самаромач

Беларуская Коопэратыўна Гаспадарчая Часопісь

Год IV. | Вільня, Ліпень 1935 г | № 7.

Хай злыдні над намі,
скрыпочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой
край,
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй,
засявай!..

ЯНКА КУПАЛА.



Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомаччу

Джордж РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ №7 (36).



## Ceny ŭ Vilni

*12.VII.35. Ceny za 100 kiloɦram.*

**Zbožža.**

**(Pry kupli—prodažy).**

| | |
|---|---|
| Pšanica | 17.25 |
| Muka pšaničnaja | 29 — |
| Muka, žytniaja da 55% | 22 00 - 22 50 |
| Muka žytniaja da 65% | 18.50 - 19 00 |

*(Ceny z papiarednicɦ dzion)*

| | |
|---|---|
| Žyta | 11.00 - 11 75 |
| Pšanica | 16,00—17 25 |
| Avios | 13.00 - 14,25 |
| Muka pšaničnaja | 13.00 - 29 00 |
| Muka žytniaja sitkovaja | 14.50—15 00 |
| Muka žytniaja razovaja | 14 50—15 00 |
| Muka žyt. da 82% (typ vajskovy) | 16.00—16 50 |
| Makuchi lannyja | 17.00 |
| „ sonječnikavyja | 17.00 |
| „ repakavyja | 13.00 |
| „ kanaplanyja | 11.00 |

**Małočnaje za 1 kilo (12.VII 35.)**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, za kilo ŭ hurcie | 1.70 |
| „ „ „ „ u detalu | 2.10 |
| Masła stałovaje (II hat.) za kilo ŭ hurcie | 1.55 |
| „ „ „ „ u detalu | 1.90 |
| Syr navahradzki, (ement.) za kilo ŭ hurcie | 2.90 |
| „ „ „ „ u detalu | 3.50 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1.45—2.10 |
| „ „ „ „ u detalu | 1.80—2.60 |
| Jajki, kapa | 3.40 |
| „ štuka | 6—8 hrašoŭ |

**Miasnoje 12.VII. za 1 kilo bitaj vahi.**

| | |
|---|---|
| Vałovina, celyja štuki, | 0.75—0.85 |
| „ zady | 0.90—1.10 |
| Vałovina pierady (košer) | 90—1.20 |
| Cialacina, | 0.75 - 0.85 |
| Švinina | 0 78—0.87 |

**Skury syryja.**

| | |
|---|---|
| Skury bydlačyja, syryja, za 1 kilo | 0.75 |
| Skury cialačyja, za štuku | 3·80—4.20 |

# Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŪNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

# Самапомач

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

| Hod IV. | Vilnia, Lipień 1935 h. | Nr. 7 (36). |
|---|---|---|


*Kooperatyūna-haspadarskija naviny.*

**Uznoū źmiena polskaha kooperatyūnaha zakonu?** Hazety padajuć, što na pasiedžańni Kooperatyūnaj Rady dnia 18 červienia sioleta rezhladałasia miž inš. sprava častkovaj źmieny kooperatyūnaha zakonu ū addziele, što datyča likvidacyi i ūpadku kooperatyvaū. Tymčasam u hetaj spravie nia pryniata nijakaja pastanova.

**25-tyja ūhodki** svajho isnavańnia abchodzić sioleta Ziemlarobskaja Daśledčaja Stancyja ū Bieniakonich, Lidzkaha paw. Heta jošć adzinaja stancyja hetkaha rodu na našych ziemlach. Ad samaha pačatku, 1910 h., i da siahońnia dyrektaram stancyi jošć praf. V. Łastoūski.

**Narač burycca—ješči choča.** Na padstavie zakonu ab rybactvie z 7.III.1932 h. słaūnaje naša voziera Narač pierajšło sioleta na ūłasnaść polskaha Uradu, jaki vydaū heta voziera ū arendu miascovamu Nadleśnictvu. Vakoličnyja sialanie paśla hetaha apynulisia ū vielmi ciažkim pałažeńni, bo stracili mahčymaść volnaha rybałoūstva, z jakoha dahetul pieravažna ūtrymoūvalisia. Na hetym hruncie dajšło tut navat da sialanskaha strajku. Sprava heta jšče nia vyrašana. — 7 VII 35 h. adbyūsia ū hetaj spravie „informacyjny źjezd" ū Brasłavie, jaki taksama ničoha nia vyrašyū. A žyć ludzi patrabujuć.

**Novaja taksa za komasacyju hruntoū** ustanoūlena Rasparadžeńniem ministra Ziemlarobstwa i Ziam. Ref. z dnia 6.VI.1935 (Dz. U. R. P. № 43).

Rasparadžeńnie ūvajšło ū siłu 19 červienia i pastanaūlaje hetkija apłaty za adzin hektar:

1) na terytoryi vajavodztva navahradzkaha, paleskaha, uschodniaj čašci vajavodzta biełastockaha (paviety: biełastocki, bielski, horadzienski, sakolski i vaūkavyski), paūdzionna-zachodniaj čašci vajavodztva vilenskaha (paviety: maładečanski, ašmianski, śviancianski i vilenska trocki)— kali mierycca majemaść pavodle staroha stanu— 20 zł., biaz hetaha mierańnia — 15 zł;

2) na terytoryi paūnočna-uschodniaj čašci vilenskaha vajavodztva (paviety: brasłaūski, dziśnienski, postaūski i vialejski) — kali mierycca majemaść pavodle staroha stanu—18 zł., biaz hetaha mierańnia—13 zł.

Dla hruntoū, jakija ū suviazi z komasacyjaj buduć pamierany, ale nia buduć skomasavanyja, dla hruntoū, jakija ūžo raniej byli achoplenykomasacyjaj na inšym abšary komasacyjnym, jak hrunty h. zv. „rožničnyja," i dziela hetaha byli abłožany apłatami, a tak-ža dla niazdatnych dla poūnaj abrobki hruntoū, kali jany naličajuć bolš jak 15 proc. usiaho abšaru hruntoū, jaki maje ūčaśnik komasacyi, — apłata adnaho hektara płacicca pavodle takoj taksy:

— na terytoryi, što padadzieny ū punkcie 1-ym — z pamieram staroha stanu majemaści 8zł., biaz hetaha pamieru — 6zł.;

— na terytoryi, što padadziena ū punkcie 2 him — z pamieram staroha stanu majemaści 6 zł., biaz hetaha pamieru — 4 zł.

Apłaty za vykanańnie komasacyi vyznačajucca pavodle abšaru hruntoū, što byli pierad komasacyjaj.

Za skasavańnie servitutaū šlacham prymusovaha pastupańnia na terytoryi vajavodztva paleskaha, navahradzkaha, vilenskaha i ūschodniaj čašci vajavodztva biełastockaha treba płacić 8zł. ad adnaho hektara vydzielenych hruntoū, pry čym pa pałavinie płaciać: toj, chto karystaū z servitutaū, i toj, chto mieū hrunt servitutam abciažany. Apłaty jak za vykanańnie komasacyi hruntoū, tak i za skasavańnie servitutaū, raskładajucca na piać hadavych rat, najmienš pa 15 zł.

Učaśnikam kamasacyi, katoryja ū suviazi z komasacyjaj pieranosiać budynki, termin spłaty pieršaj raty možna adłažyć na adzin hod.

Naležnaści z pryčyny specyjalnych vydatkaū taksama spłačyvajucca ratami.

Rasparadžeńnie pradbačyć adsročki ū spłačyvańni ratаū — tady, kali płatnik nia moža ich spłacić; pradbačyć tak-ža mahčymaść zvalnieńnia ad apłataū i naležnaściaū:

1) kali płatnik dziela stałaj biednaści nia moža apłataū i naležnaściaū spłacić;

2) kali dziela važnaści haspadarčych intaresaū učaśnikaū komasacyi, na padstavie pastanovy apošnich, komasacyja ūstrymana;

3) kali suma apłataū ci naležnaściaū ad adnaho płatnika nie pieravyšaje 10 zł.;

4) kali zrobleny vydatak na matar'jał pry vykonyvańni meljoracyjnych rabot;

5) kali źjavicca patreba ūzmocnienaj komasacyi na niekatorych abšarach.

Zvalniajucca ad apłataū i naležnaściaū ułaśniki haspadarak karłavatych, kali ich prarezała uschodniaja miaža dziaržavy.

Vyznačaje apłaty i naležnaści a tak-ža terminy ich spłaty — starasta; adkładaje terminy spłaty, u vyniku prośby płatnika, jakaja składajecca ułaścivamu starastu, — vajavoda; u spravie zvalnieńnia ad apłataū... — rašaje ministar Ziemlarobstva.

# Сельская гаспадарка.

## Пачынаем новы год!

У земляробстве, як ведама з папярэдняга нумару „Самапомачы“, гаспадарчы год найлепш пачынаць ад 1-га ліпня. Важны пры гэтым ня сам дзень як тякі, а пераходная пара году, калі ў гаспадарцы канчаюцца звычайна ўсе запасы году папярэдняга і пачынае дасьпяваць ураджай году „новага“.—Аблічэньне старых запасаў і новага ўраджаю гэта адна толькі часьць прац на пераломе двух паўгодзьдзяў. Дальшай працай ёсьць **састаўленьне пляну працы на год наступны.** Важная гэта вельмі справа і на гэтым тут крыху затрымаеся.

Добры плян у гаспадарцы і акуратнае выконваньне яго — гэта ўсё. Тым акуратней і з поўным зразуменьнем справы трэба плян гэткі састаўляць.

Падставай земляробства ёсьць гаспадарка ў полі. Таму, ці то пачынаючы гаспадарыць зусім нанова, ці хочучы гаспадарку паправіць, трэба ўсё пачынаць ад састаўленьня пляну гаспадаркі ў полі. Гэткі плян польнай гаспадаркі, дапоўнены севазваротам ці йнакш — парадкам, у якім расьліны на полі маюць наступаць адна па другой, ня можа быць усюды аднолькавым. Затое аднолькавыя для ўсіх правілы састаўляньня такіх плянаў і кожны земляроб павінен гэтыя правілы знаць. Асабліва гэта важна ў пару жніва, калі як раз і трэба ўжо ведаць, што пасеем на месцы, якое жнівом апаражняецца.

Якія-ж гэта правілы састаўляньня севазвароту і на чым яны апіраюцца? — Пачнём ад гэтага апошняга.

Знаем, уласьціва кажучы, два правілы: каб паміж сабраньнем з поля папярэдняй расьліны і засевам другой было досыць часу на вычышчэньне глебы ад розных шкоднікаў, абрабленьне гэтай глебы і пагнаеньне ды каб высьцерагацца даваць на адно поле некаторыя расьліны самі па сабе. Гэткіх расьлін ня шмат: сюды адносіцца насамперад чырвоная канюшына, гарох і наагул расьліны стручковыя і матыльковыя, з выняткам дзяцеліны (канюшыны б е л а й); ня можна сеяць сам па сабе і лён.

Аб самым чаргаваньні расьлін на полі трэба ведаць, што папярэдняя расьліна павінна ня толькі ў час зьйсьці з поля, але і сама мусіць да пэўнай меры прыгатаваць поле для расьліны наступаючай. Трэба пры гэтым ведаць, што адны расьліны закараняюцца глыбей, другія мялчэй, адны адбіраюць ад глебы найважнейшую ейную гнойную сучастку — азот, а другія гэты азот у глебу дадаюць (стручковыя і матыльковыя); адны глушаць на полі ўсякае пустазельле, другія пазваляюць яму расьці; адны пакідаюць па сабе глебу пульхнай і зярністай (акопніны), а другія — зьбітай; урэшце адны расьліны любяць прыйсьці на сьвежую „гнойную сілу“ (на поле сьвежа пагноенае), а другія гэтага ня любяць і сьвежай гнойнай сілы ня выкарыставаюць.

Вот-жа ясна, што калі адно поле некалькі гадоў пад рад будзе засявацца напрыклад збожжам, дык глеба раз што саб'ецца, а пасьля — зарасьце ўсякім пустазельлем. Узноў жа калі колькі гадоў запарам на адным полі будзе садзіцца, скажам, бульба ці буракі, дык асабліва па лягчэйшых грун-

## Слоўца да тых, што прадаюць і купляюць гаспадаркі

Купля, замена, спадкаемства і іншыя спосабы набываньня зямлі на ўласнасьць, гэта важны мамэнт у жыцьці чалавека-земляроба. Асабліва сягоньня, калі раз за разам з пад рук нашага чалавека ўцякае зямля ў рукі розных людзей наездных. Ня можна сказаць каб наш чалавек не разумеў, як важным ёсьць утрыманьне зямлі ў сваіх руках. Але ня ўсюды. Стыдна прызнацца! Стыдна! Але спатыкаюцца ў нас сягоньня і такія „гаспадары“, якія прадаюць сваю зямлю, нават без канешнай патрэбы, людзям чужым. Банкроты-памешчыкі прадаюць сваю зямлю блізу заўсяды прыездным палякам. Робяць гэта на тое, каб узмацаваць на нашых землях „жывёл польскі“. „Пасвоему“ разумеючы памешчыкі робяць пры гэтым карысную д л я і х самых работу.

Але якая карысьць нашаму чалавеку, беларусу, калі і без таго вузкі ягоны шнюрок прыходам чужых людзей вузее йшчэ больш? Калісьці, да вайны, палякі ў Пазнаншчыне пад Нямеччынай называлі здраднікам таго паляка, які адважыўся прадаць сваю зямлю прыезднаму немцу і нікуды яго ня прымалі, усюды яго чураліся, адпіхалі як прадажнага вырадка. Гэткім чынам Пазнанскія палякі ўтрымалі свае землі, хоць немцы сюлілі за іх высокія грошы... Гэта прыклад грамадзкай сьпеласьці і яго трэба нам таксама насьлядаваць. Землі трэба трымацца ўсімі сіламі. А як ужо прыйдзецца які кусок яе прадаць, дык прадаваць яе трэба толькі чалавеку свайму м я с ц о в а м у, беларусу. Інакш, калі ня мы, дык дзеці і ўнукі нашы, нас праклінаючы, пойдуць з торбамі, а на зямлі— з дзядоў-прадзедаў нашай— будуць панаваць людзі ня толькі чужыя нам, але і варожыя. Гэта ганьба няўміручая!

Становуча выказваючыся проці прада-

тох глеба занадта рассыпецца, а да таго—у ёй могуць вельмі размножыцца ўсякія шкоднікі, бо стала будуць мець на месцы патрэбны для іх корм.

Усё гэта змушае расьліны на адным і тым-жа полі адпаведна зьмяняць: па расьлінах закарэньваючыхся глыбака, як лубін, канюшына, павінны прыйсьці расьліны, што закарэньваюцца плытка (збожжа); па расьлінах, што азот глебе даюць (усе стручковыя і матыльковыя) трэба даваць расьліны, што гэты азот з глебы забіраюць (збожжа, акопніны). Далей, добра ўтрыманыя акопніны чысьцяць поле ад пустазельля, а ў збожжы гэткае пустазельле разводзіцца. Урэшце, што датыча здольнасьці выкарыстоўваньня гнойнай сілы ў глебе, насамперад гною хлеўнага, дык тут усе гаспадарскія расьліны трэба падзяліць на тры часьці (групы):

1. расьліны, якія сьвежа паложанага хлеўнага гною патрабуюць: бульба, капуста, бручка, кармовыя буракі;

2. расьліны, якія сьвежа паложаны гной толькі церпяць і найлепш удаваліся-б толькі ў другой зьмене па хлеўным гнаі: авёс, мак, травы, цукровыя буракі, бульба і

3. расьліны, якія вельмі цяжка могуць карыстаць з сьвежа паложанага гною: лён, ячмень, грэчка, пшаніца, жыта, каноплі.

Заўважце тут, якую абмылку робяць нашы гаспадары, сеючы жыта, пшаніцу, ячмень і г. д. на сьвежа пагноеным полі!—Да гэтага-ж трэба заўважыць, што жыта ня любіць перапульхненай глебы і таму ня можна даваць яго па бульбе.



*Ня сушэце заафанага папафу: за плугам мусіць зразу йсьці барана!*

# Жніво — жніво!

Паводле вестак з розных бакоў нашага краю, сёлетнія ўраджаі прадстаўляюцца не найгорш, а мясцамі дык і зусім добра. Пэўна-ж, гэтае „добра“ далёкае ёсьць ад таго, што маюць людзі ў краёх з высокай земляробскай культурай. Але мы рады будзем на сёлета і з гэтага, што маем. Каб жа толькі ўсё ў парадку сабраць у пуню!

Аб самым жніве тут сёлета скажам толькі, што ў жыта пара гэта прыходзіць, калі наступае гэтак званая жоўтая сьпеласьць: зерне, хоць яшчэ і мяккое, але ўжо ломіцца праз пазногаць, а салома йшчэ не перасохлая. Прыкрываючы копкі жыта трэба памятаць, што дождж у гэту пару найчасьцей прыходзе з заходняга боку. Аржышча ня можна пакідаць незаараным, а плытка зааранае (падлушчанае) трэба або хутка навесьці хлеўным гноем пад бульбу, або абсеяць кармавымі расьлінамі, або расьлінамі зялёнага гнаеньня, або ўрэшце заараўшы—забаранаваць.

З гэктара заграніца лёгка зьбірае 15—20 мэтр. цэнтнараў(90 – 125 пудоў)жытняга зерня і двойчы гэтулькі саломы. І мы мусім да гэтага імкнуцца.

Зьбіраньне пшаніцы з поля кіруецца тымі самымі правіламі што і жыта. Таксама стаіць справа і з ураджаем.

Пры жніве ячменю трэба памятаць, што зерне ягонае, калі замокне зжатае, дык шчарнее. Важна гэта асабліва пры ячменю броварняным (двухрадовым), за які можна дастаць добрую цану. Але гэткі ячмэнь трэба да суха сьпяліць на пні, каб як мага хутчэй пасьля сабраць яго прад дождкам у пуню. — Азімага ячменю ў нас ня сеюць і таму яго тут прапускаем.

Авёс трэба жаць, пакуль ён яшчэ ня зусім высьпеліўся, бо йнакш можа пасыпац-

---

ваньня зямлі ў рукі чужыя, нічога ня можна мець проці руху тэй-жа зямлі з рук у рукі людзей мясцовых. Для іх так-жа ніжэй уважаю за патрэбнае падаць колькі заўваг аб тым, як прыступаць да перагляду куплянай гаспадаркі.

Насамперад што да вялікасьці самай гаспадаркі. Вот-жа тут спатыкаем найчасьцей адну вельмі вялікую абмылку. Пайменна: людзі нашы, купляючы гаспадарку, мераць свае грашовыя запасы толькі паводле таго, колькі трэба заплаціць за самую зямлю; зусім пры гэтым забываюцца, колькі трэба йшчэ грошаў на загаспадараваньне гэтай гаспадаркі. Добра йшчэ, калі хоць уся зямля бывае сплачана гатоўкай і ня трэба было лезьці за яе ў даўгі. Але здараецца і так, што на куплю самай зямлі ўжо чалавек набраў даўгоў; а пасьля — патрэбны йшчэ грошы на разгаспадараваньне і на «зварот», ціснуць працэнты ад доўгу, а узяць незашта. І так зацесьняецца пятля, аж пакуль неразважнага чалавека зусім задушыць: прыходзіць запраўднае бакруцтва і чалавек, як гаспадар, перастае існаваць. Чаму? Бо за многа купіў зямлі і ня ён яе перамог, але яна яго. Гэта адна абмылка.

Другая вялікая абмылка ў тым, што людзі часта больш прыглядаюцца да купляных чаравікаў, як да гаспадаркі. А пасьля бяда, але ўжо бывае позна.

Наўперад, калі купляем зямлю ад незнаёмага чалавека, дык трэба канешна даведацца, ці гэты чалавек запраўды ўпаважнены гэту зямлю прадаваць; ці прадаваная зямля ёсьць тым, за што яе купляем і ці няма на ёй якіх даўгоў ці забавязаньняў, гэтак званых служэбнасьцяў. — Усё гэта на добры лад можна было-б даведацца ў гіпотэцы пры акружных судох. Доступ да гэтых гіпотэчных кніг ўсякаму вольны. Толькі, каб чалавек умеў у іх шукаць таго, чаго яму трэба. Калі сам пакупшчык у гіпотэчнай кнізе разабрац-

ца. Але з другога боку трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць і на тое, каб за зялёна зжаты авёс быў добра высушаны. Бо здараюцца выпадкі, што нясьпела зжаты авёс (салома) у пуні так разаграваўся, што самазапаляўся.

Цяжэйшым ёсьць зьбіраньне з поля гароху і наагул расьлін стручковых; раз што яны няроўна дасьпяваюць, а пасьля — яны вельмі мясістыя і таму цяжка сохнуць. Каб стручковыя не перасьпелі і не пасыпаліся, іх трэба касіць, калі часьць стручкоў яшчэ бывае зелянавай. Узноў-жа да сушэньня скошаных стручковых трэба ўжываць канешна трыногаў (гл. „Самапомач“ № 5сёл.), інакш званых яшчэ „казламі“,—а так-жа пярэплатаў.— Тое самае з вікай, сачыўкай.

Урэшце асаблівай увагі пры жніве(касьбе) патрабуе лубін; косіцца ён, калі споднія струкі ўжо цёмныя, а ў верхніх струкох зерне ўжо сусім выпаўнілася Зжаты лубін састаўляецца ў вольных снапох, у каторых насеньне і дасьпявае. Вымалачанае зерне лубіну трэба ўважна перахоўваць, бо можа лёгка сплясьнець.

А. К.

## Як ужываць хлеўны гной на полі?

На іншым месцы гэтага нумару „Самапомачы“ сказана, што хлеўны гной, хоць і ёсьць вельмі цэнным, то аднак ня ўсе расьліны патрапляюць належна яго выкарыстаць на сьвежа: большасьць расьлін сьвежа гноеную глебу толькі „церпіць“, а некаторыя — між іншым і наша жыта—у сьвежа пагноенай глебе расьце толькі з трудом.

А ў нас якраз вельмі часта людзі гнояць хлеўным гноем пад самае жыта. І кепска робяць: хлеўны гной беспасрэдна трэба даваць пад бульбу, кармовыя буракі, бручку: гэтыя толькі расьліны найлепш патрапляюць выкарыстаць гэтак званую 1-шую гнойную сілу глебу. Пад жытам жа вялікая часьць гэтай гнойнай сілы марнуецца дарма. Трэба аб гэтым памятаць.

Аб самым ужываньні хлеўнага гною трэба ведаць наступнае:

Гноім поле ня што год і таму трэба старацца, каб раз пагноенае поле утрымала ў сабе гнойную сілу як можна даўжэй. Мыліўся-б аднак той, хто думаў-бы, што поле даўжэй затрымае ў сабе гнойную сілу, калі яго за раз сільна пагноім. Яшчэ пры цяжэйшых глебах (гліна, глей) гэта да пэўнай меры апраўдываецца. Але на глебах лягчэйшых (пясок) найбольшыя запасы гною, дадзеныя за раз, хутка выпаласківаюцца і глеба астаецца пустой. Дзеля таго аднак, што і ў цяжэйшай глебе большыя запасы гною, дастаўшыся глыбей, бясплодна толькі бутвеюць, найлепш прыняць агульнае правіла

**гнаіць меншымі порцыямі але часьцей.**

Дальшай справай ёсьць выважэньне гною на поле. Пры гэтым ёсьць вялікая небясьпека страты з гною цэнных азотных сучастак. Каб гэтыя страты былі як можна меншыя,

**трэба вывозіць гной у пахмурную пагоду, зараз-жа растрасьці і прыворываць.**

Прыворываць гной трэба наагул плытка, бо йнакш ён ня можа перапрэць, бутвее і марнуецца. На глебах цяжэйшых хлеўны гной прыворываецца плытчэй, на лёгкіх — глыбей; але і тут ня глыбей 10 см.

Калі-б так здарылася, што хлеўны гной адразу прыарэцца за глыбака, тады пры наступным араньні радзяць араць на тую-ж

---

ца не патрапіць, хай папросе з сабой пайсьці чалавека гэтыя рэчы знаючага.

Гіпотэчныя кнігі ў нас заведзеныя толькі пасьля вайны і большасьць гаспадарак, у тым ліку ўсе гаспадаркі сялянскія, гэткіх гіпотэчных запісаў ня маюць. Таму з гіпотэкі можна карыстаць толькі купляючы зямлю ад двароў, хваліваркаў і хутароў; пры куплі-ж зямлі ад сялян усе інформацыі можна сабраць толькі ў гміне ды ад кругом жывучых суседзяў.

Але і сам пакупец мусіць мець вочы адчыненыя на ўсё; мусіць усё ацаніць сваім розумам. Важна тут самому праканацца: якая глеба, якая і як далёка вада, абглездзіць будынкі, сады, даведацца, дзе і якія бываюць таргі і як да іх дастацца (якія дарогі), ці ня бываюць часта паводкі або град, прымаразкі, хто і якія суседзі, ці ёсьць у ваколіцы якія мясцы заработкаў: рубаньне і сплаў дрэва, рамесныя і хвабрычныя майстроўні, найманьне ў хвурманкі і г. д. і г. д. А прадусім, трэба даведацца як родзіць зямля. Найлепшай парой да такіх пераглядаў куплянай гаспадаркі ёсьць час паміж сенакосам і жнівом, калі йшчэ ўсё на полі (акрамя сена), але калі рост ужо ўстрыманы. Перасьцерагчы пры гэтым трэба прад пераглядамі вясной, калі ўсё на полі і на сенажаці расьце і цьвіце і таму зямля здаецца больш ураджайнай, чым ёсьць у запраўднасьці.

Аб цане зямлі можна толькі сказаць, што залежа яна ад мясцовага попыту і подажы, ды што цана на зямлю звычайна падыймаецца над запраўдную гаспадарчую вартасьць дзеля таго, што пры гэтым іграе важную роль і асабістае ўпадабаньне ўласьніка жыць вольным жыцьцём, сярод здаровай вясковай прыроды.

Гаспадар.



глыбку, каб падняць узноў гной бліжэй да паверхні.

Застасаваньне хлеўнага гною пад бульбу і наагул пад акопніны павінна выглядаць гэтак: аржышча па азіміне ці ярыне на глебах цяжэйшых адразу плытка ўзорываецца (лушчыцца). Па нейкім часе — як пазваляюць пільныя ў гэту пару работы ў полі — на падлушчанае аржышча вывозіцца гной і плытка заворываецца. Увосені-ж, перад настаньнем маразоў, гэта поле ўзноў ўзорываецца, але г л ы б а к а. На грунтох лягчэйшых, але чыстых ад пустазельля, можна аржышча зусім не падлушчываць, а толькі падрапакаваць, зараз-жа навазіць на яго гной і заворываць. На гэтых-жа лёгкіх грунтох можна ўрэшце адлажыць гнаеньне пад акопніны і аж да вясны. Але, паўтараю, на цяжэйшых грунтох пад акопніны трэба гнаіць хлеўным гноем толькі з восені. — Інакш гнойная сіла цалком не выкарыстоўваецца.

**С. Я—віч.**

# Што пасееш то' й пажнеш

Зьбіраючы сёлетні ўраджай, трэба думаць аб годзе наступным. Добра ўробленае, ад пустазельля ачышчанае і пагноенае поле трэба засеяць добрай сяўбой. А гэту сяўбу трэба ужо шукаць.

Сягоньня ўжо няма мусіць і на нашай беларускай вёсцы нікога такога, хто ня ведаў-бы, што гэта значыць насеньне заводнае. І запраўды такое насеньне добрае. Толькі... толькі ня ўсюды! І таму часта можна чуць нараканьні, што „вот, сяўба гэтак дорага каштавала, а па двух, найвышэй, трох гадох і зусім зьвялася.“ Чаму зьвялася? А таму, што яна ў нас не знайшла ані гэтулькі сьвятла, ані цяпла, ані корму, ані дагляду; словам — не знайшла таго, што яна мела ў тым месцы, дзе вырасла. Гэткая „модная“ сяўба ў сваім краі была як-бы „расьпешчаная,“ а тут гэтых пяшчотаў не знайшла і таму захірэла. Гэта зусім натуральнае і зразумелае.

Але-ж людзі ўжываюць заводнай сяўбы і хваляць яе: дык чаму яна ў іх родзіць? — А родзіць яна ў іх дзеля таго, што яны ўмелі падабраць сорт гэтага насеньня, а пасьля — умелі і пастараліся даць гэтай расьліне тое, чаго яна вымагае. У гэтым увесь сакрэт удачы.

Дык як быць?

Я тут не хацеў-бы нікога намаўляць на куплю дарагога прывознага насеньня, бо на гэта сягоньня мы ня маем грошы. А каб гэтыя грошы неяк і раздабылі, дык мусілі-б добра задумацца, ці патрапім даць прывезенай расьліне тое, што яна вымагае. Дзеля гэтага я думаю, што ў нас сягоньня найлепш выбіраць на насеньне сарты збожжа мясцовага, свайго. Доўга не гаворачы нам трэба— хто йшчэ гэта зрабіць пасьпее — абыйсьці зараз-жа свае палеткі засеенага збожжа і пазазначаць мясцы, дзе расьце збожжа чыстае, здаровае, добра разьвітае. Гэткія мясцы трэба пасьля асобна дасьпяліць, асобна пажаць, высушыць, вымалаціць... засеіць. Ведаю прыклады, калі людзі гэтак зьбіралі з сваіх палёў **па аднаму каласку** і пасьля дагадоўваліся вельмі добрай і плоднай сяўбы. Марудная гэта работа, але ў нашай сягоньняшняй бядзе варта на ўвагу. Не каштуе гэта ні граша, таму беднасьцю ніхто тут ня можа адгавараваца. А хто замест гэтага і далей сеіць зьмяшанае з гірсой ці галаўнёй жыта, той не гаспадар, а гультай.

Калі можна дастаць у суседа лепшай сяўбы ў замен на сваю (з малой надбаўкай), дык гэтай магчымасьці хай ніхто не прапусьціць.

Урэшце калі-б хто дастаў на сяўбу насеньне ад чалавека незнаёмага, той мусіць канешна спрабаваць усходлівасьці такога насеньня. Дзеля гэтага хай на плоскую талерку, ці штосьці падобнае, палажа вогкую сушку (бібулу), а на яе адліча і палажа 50 ці 100 зярнят насеньня і паставіць у цёплым памешканьні. Сушка стала мусіць быць вогкая (трэба падліваць). Па некалькіх днёх усе добрыя зярняты пусьцяць расткі. Падлічаем гэткія зярняты. Калі было пасыпана 100 зярнят а прарасло, скажам, 95, значыць працэнт усходлівасьці 95. Пры 50 зярнятах, каб атрымаць працэнт усходлівасьці, трэба лічбу прарослых зярнят памножыць на два. Напр.: пасыпана 50 зярнят, абыйшло 47; гэту лічбу 47 множым на два — атрымоўваем 94. Гэта і ёсьць працэнт усходлівасьці нашага сяўбовага насеньня.

На якасьць сяўбовага насеньня трэба зьвярнуць пільную ўвагу.

Дзісна **В. С—скі.**

# Пладовае віно

**Віно з парэчак, агрэсту і вішняў.**

Віно прыгатаванае з рознай садавіны або з ягад ёсьць вельмі добрым напіткам. Выраб гэткага віна складаецца з дзьвюх асобных чыннасьцяў: з 1. прыгатаваньня мошчу і 2. пераробкі мошчу на віно.

*Прыгатаваньне мошчу.*

Пладовае віно вырабляецца з соку, які выціскаецца з пладоў і агародных ягад. Гэты сок, зьмяшаны пасьля з вадой і цукрам, называецца мошчам.

Першым правілам прыгатаваньня добрага мошчу ёсьць захаваньне чыстаты. Плады ўжываныя да прыгатаваньня мошчу мусяць быць чыстымі, сьпелымі і здаровымі (незагніўшымі). Сок розных пладоў выціскаецца розна. Яблыкі, добра ачышчаныя, спачатку разрэзваюцца і пасьля толькі расьціскаюцца ў дзераўляных ступках дзераўлянымі таўкачыкамі. Сок з ягад, як маліны, парэчкі ці вішні найвыгадней выціскаць моц-

най дзераўлянай лыжкай у паліванай місе, або гаршку. Можна таксама з ягад выціскаць сок чыста вымытай рукой. Да выцісканьня соку ня можна ўжываць ніякай жалезнай (бляшанай) пасуды, бо ад гэтага сок (мошч) чарнее; таксама небясьпечна ўжываць пасуду (міску, лыжку) пацынкаваную, бо квас соку з цынкам можа вытвараць шкодныя для здароўя спалучэньні.

Расьціснутыя гэтак на мяздру плады прыкрываюцца чыстай тканінай ці наагул векам і ставяцца ў спакойнае месца на 2-3 дні. Праз гэты час мяздра зафэрмэнтуецца (заквасіцца) і лепш пачне пускаць сок.

Пасьля гэтага приступаюць да самага выцісканьня соку, або прэсаваньня. Робіцца гэта так, як у нас прэсуецца адагрэтае малако на тварог і сыр: мяздра накладаецца ў чысты лянны мяшочак і кладзецца на пахілым століку ці на нечым падобным ды націскаецца. Сок, які гэткім чынам выцякае, трэба перацадзіць. Калі ўжо сок з мяздры не цячэ, тады трэба яе перамяшаць і нанова выціскаць. Каб выціснуць з мяздры ўвесь сок, мяздру гэту ўзноў выбіраюць спад прэсу, кладуць у чыстую судзіну (не жалезную і не цынкаваную!) і заліваюць чыстай вадой. Колькі вады заліваць — залежа гэта ад таго, з якіх ягад зроблены мошч і колькі гэтага мошчу з данай мяздры ўжо выціснена: на мяздру з парэчак заліваюцца два літры вады на кожны літр выціснёнага з яго прад тым мошчу; на мяздру агрэставую заліваецца паўтара літра, а на мяздру вішнёвую — поўлітра вады на кожны літр выціснёнага стуль прад тым соку. Залітая гэтак мяздра ставіцца на 1—2 дні ў спакойнае месца і нанова прэсуецца. Выціснены пры гэтым сок мяшаецца з сокам раней выціснёным і атрымоўвуецца сок разьведзены вадой. Гэты сок трэба цяпер засаладзіць чыстым (ня жоўтым) цукрам. На тры літры мошчу даецца 1 кілёграм цукру. Мошч гатовы. Салодзячы трэба мошч мяшаць, бо йнакш часьць цукру можа не разыйсьціся і змарнавацца.

## *Перафобка мошчу на віно*

Уся істота перамены мошчу на віно ў тым, што цукар мошчу пераменяецца ў алькаголь. Згэтуль ясна, што чым больш цукру ў мошчу, тым віно будзе мець больш моцы. Але мацнейшае як 16° віно з пладоў быць ня можа.

Першай працай пры пераробцы мошчу на віно ёсьць прыгатаваньне адпаведнай судзіны. Найлепш, калі судзіна такая ёсьць з шкла; дзераўлянай можа быць яна толькі новая. Ня можна ўжываць да віна судзіны, у якой прад тым квасілася капуста, агуркі або калі быў там воцат. Судзіну шкляную досыць добра вымыць. Судзіну з дрэва (бачонак) трэба выкурыць серкай гэткім спосабам: серку кладуць на сподачак і топяць (распушчаюць) на гарачай блясе. У растопленай серцы мачаюць з абодвух бакоў кусочкі паперы. Тады бярэцца кожны такі кусочак паперы, абкручваецца дротам, запальваецца, усуваецца праз дзірку ад шпунта ў сярэдзіну бачонка, а сам шпунт добра заціскаецца (бачонак зашпунтоўваецца). Гэтак зашпунтаваны бачонак стаіць 4—5 гадзін і па гэтым часе адчыняецца. Калі няма ўжо ў ім тухліны і наагул прыкрага запаху, дык можна ў гэткі бачонак ужо зліваць мошч.

Калі-ж гэткая тухліна йшчэ ёсьць, дык апісанае выкурываньне трэба йшчэ паўтарыць.

У прыгатаваную судзіну зьліваецца гэтулькі мошчу, каб ён займаў тры чвэрткі і найбольш — чатыры пятыя ўсяго абыйма судзіны; рэшта мусіць быць вольнай, бо йнакш газ ня меў-бы месца і ўцякаў-бы, — а гэта ўжо страта. Напоўнены мошчам бачонак, і наагул судзіна, затыкаецца сумысным купленым гэтак званым „квасным коркам," або коркам прыгатаваным (пашытым) з чыстых кавалачкаў белай тканіны, ці з ваты абшытай гэткай самай тканінай. Корак прад затыканьнем трэба змачыць у чыстым сьпірце Гэтак закаркаваны бачонак з мошчам трэба паставіць у цёплае (цяпліня хаты 18°С) месца і тут пачынаецца бушаваньне мошчу (фэрмэнтацыя), якая трывае 4—5 тыдняў. Мошч пры гэтым шуміць і пеніцца. Калі бачонак пастаўлены быў у зімное месца, напр. у склеп, дык фэрмэнтацыя трывае даўжэй, 7—8 тыдняў.

Па гэтым часе пена пачынае зьнікаць і сам мошч праясьняецца. Каб гэткае праясьняньне йшло хутчэй, трэба судзіну з мошчам — віном перанесьці асьцярожна (каб не страснуць і не замуціць) ў месца халоднае (у склеп).

Бушаваньне мошчу гэта вельмі важны мамэнт і ад яго ў вялікай меры залежа ўдача цэлага вырабу. Небясьпечным для бушаваньня бывае тэмпэратура ніжэй 15 і вышэй 33°: у абодвух выпадках бушаваньне перастае і з мошчу замест віна атрымоўвуецца кіслы воцат.

Для тых, хто робіць віно першы раз, найлепш наліваць мошч да бушаваньня ў судзіну шкляную: тады можна бачыць увесь ход бушаваньня і ўсьцерагчыся гэтак магчымых абмылак.

Калі віно зусім праясьніцца («выкляруецца»), трэба яго спусьціць у бутэлькі, дбаючы пры гэтым аб чыстасьць. Спускаць віно ў бутэлькі найлепш пры помачы гумовай трубкі, якую прад тым трэба перапаласкаць колькі разоў гарачай вадой. Бутэлькі і наагул судзіну, у якую спускаецца віно, трэба наліваць да паўна, бо йнакш віно можа ськіснуць на воцат.

Напоўненыя бутэлькі моцна каркуюцца, шыйкі іх мачаюцца ў растопленую парафіну, абсушваюцца, а самі бутэлькі выносяцца ў склеп, дзе і складаюцца ляжма да высьпяленьня.

*а.к.*

# Ня пійце вады пасьля фруктаў

Прыходзе пара дасьпяваньня розных фруктаў у садох і агародах. Здаровая гэта і карысная страва. Але з другога боку ведамы й такія выпадкі, што людзі, асабліва-ж дзеці, наеўшыся такога сыр'я моцна гэта пасьля мусілі адхварэць.

Ясна, не бярэцца тут пад увагу такое здарэньне, калі чалавек перабярэ меру ў ядзе такіх фруктаў, або калі гэтыя фрукты былі сапсаваныя (падгнілыя) ці хоць-бы толькі больш ці менш забруджаныя.

Небясьпечна пры гэтым усякая садовіна, а асабліва вішні, агрэст, агуркі і інш., калі пасьля іх чалавек нап'ецца йшчэ вады.

Што вада па фруктах часта шкодзіць людзкому здароў'ю, — гэта людзі заўважылі даўна. Але і да сягоньня астаецца нявыкрыты сакрэт, чаму гэткая вада шкодзіць. Ведама толькі, што наступаюць пры гэтым болі жывата і рвоты (тошнасьць). Ад сабраных усярэдзіне хворага чалавека газаў наступае ўздуцьцё; выпаражніваньне ўстрымоўваецца.

Як усё гэта вытлумачыць?

Адны думаюць, што жалудак (трыбух) ад перапаўненьня занадта расьцягваецца і дзеля таго перастае працаваць. Другія думаюць, што фрукты, зьмяшаўшыся у жываце з вадою, пучнеюць (як цеста на дражджах) і заціскаюць выходную кляпу жалудка; астаецца пры гэтым адзін толькі выхад — уверх. Наступае тады прыкрае адрыганьне, якое часта пераходзе ў рвоты.

Урэшце апошнія дагадкі людзей аб прычынах шкоднасьці вады пасьля садовіны (фруктаў) тлумачаць усю справу гэтак: месцам хворасьці ня ёсьць жалудак (трыбух), але тонкая кішка, у сподняй часьці каторай ёсьць надта шмат бактэрыяў. Гэтыя бактэрыі ў соках спажытай садовіны знаходзяць для сябе вельмі добрую страву (цукар). Таму бактэрыі страшна хутка размнажаюцца, выклікаючы пры гэтым сільную фэрмэнтацыю, ад чаго вытвараецца многа газаў. Газы гэтыя расьпіраюць сьценкі тонкай кішкі і яна перастае працаваць... А гэты застой і ёсьць шкодным.

Але — скажа нехта — а як-жа дае сабе раду гэта самая тонкая кішка звычайна, калі чалавек, скажам, ня п'е тэй вады? Бо — так прынамея здаецца, — бактэрыі ў кішцэ ёсьць стала і стала працуюць. — Вот-жа ў тым і справа, што звычайным парадкам чыннасьць бактэрый устрымліваецца рознымі страўнымі сокамі. Калі ж чалавек прыйме за шмат вады, тады сокі гэтыя ў вадзе распусьцяцца і іхняя дзейнасьць на бактэрыі аслабляецца. Чыннасьці-ж самых бактэрый цяпер нішто ўжо ня стрымлівае і таму наступае сільная фэрмэнтацыя, якую чалавек адчувае як „абдуцьцё."

Знача вада тут тым шкодная, што распускае страўныя сокі; а акрамя таго яна занадта скора спажытую садовіну спаласківае з жалудка ў тонкую кішку і гэтым самым не пазваляе гэтай страве належна „пераварыцца" ў жалудачных соках.

З усяго гэтага рада можа быць толькі адна: **наеўшыся садовіны ніколі ня піць вады.** Важна гэта для кожнага, а асабліва для таго, хто есьць садовіну „на навіну." **Л. М.**

Mikałaj Karalenka

# Palavy smoŭž — vorah ziemlaroba

My ziemlaroby niejk zdaŭna pryvykli da taho, što nia tolki kormim i apranajem siamju, apłačvajem roznyja padatki, ale jšče musim dzialicca pładami svajej harotnaj pracy z całaj čaradoj roznych škodnikaŭ-darmajedaŭ, z usiakimi chvarobami ŭpraŭnych raślin, što vielmi časta adbirajuć naležny nam kusok chleba.

Voś i palavy smoŭž — heta adzin z škodnikaŭ, katory karystaje z niedachopu ŭ nas praktyčnaj, ziemlarobskaj viedy i prynosić nam časta pavažnyja straty.

Šyroka znanymi jość dva hatunki smaŭžoŭ abo jak ich inakš zavuć — ślimakoŭ.

Adzin heta smoŭž-čarupaŭka (*Helix pomatia* L.) katory škodzić kustom i pładovym drevam.



Rys. 1. **Smoŭž-čarupaŭka**
*Helix pomatia* L.

Maje jon na plačach šrubavata skručanuju čarupku (hladzi rys. 1), zvyčajna žoŭta branzovaha koleru, časta z ciomnymi pajaskami Žyćcio jaho mienš-bolš padobnaje da nižej apisanaha palavoha smaŭža, a tamu što jon u nas bolšych škod nia robić, dyk daŭžej nad im i nia budziem zatrymlivacca*).

*) Treba zaciemić što hety hatunak smaŭža ŭ paŭdzionnaj Niamieččynie, Aŭstryi i Francyi ŭvažajecca za łasunak i dzięla taho ŭvosieni źbirajuć tam jaho i pašla jaduć.

Druhi hatunak (hladzi rys. 2), ab jakim tut budziem havaryć — heta palavy smoŭž (*Agriolimax agrestis* L.) — značna mienšy i nia maje takoj chatki-čarupki, jakuju maje smoŭž-čorupaŭka.

Vyrosły, raściahnuty smoŭž dachodzić udoŭžki da 3—4 cm. Cieła jaho miakkaje, (stul „miakkaciełyja" *Mollusca*, typ źviaroŭ da jakoha naležać i smaŭžy), bronzavaha koleru, pakrytaje śliźziu.



Rys. 2. **Palavy smoŭž** — *Agriolimax agrestis* L. (pavodle B. Ogijeviča).

Smoŭž hety poŭzaje pry pomačy spodniaj, raściažnoj čaści svajho cieła,h. zv. padešvy. Pry jaje pomačy moža jon poŭzać nia tolki pa ziamli, ale i pa hładkaj pavierchni škła i inšych pradmietaŭ. U poŭzańni hetym pamahaje jamu lipkaja śliź, vydzialanaja na spodniaj čaści cieła.

Poŭzajučy smoŭž pakidaje za saboj śled z ślizi — sierabrystuju darožku — što pazvalaje adroźnić škody zroblenyja im, ad škodaŭ zroblenych inšymi škodnikami.

Žyćcio smaŭža ciesna źviazanaje z stanam pahody (atmosferyčnymi varunkami) i z hlebaj. Daždžlivyja letnija miesiacy (červień, lipień, žnivień) z vohkaj i ciopłaj vosieńniu pryjajuć (spryjajuć) masavamu razmnažeńniu smaŭžoŭ. Suchaści i sonca jon nia znosić, bo sonječnyja pramieńni vysušyvajuć jahonaje ślizistaje cieł i smoŭž hinie.

Smaŭžy najbolš lubiać hlinistuju hlebu, a taksama achvotna trymajucca drenna vyrablenych, hrudkavatych paloŭ i na takich paloch najbolš škodziać.

Žyćcio smaŭža pradstaŭlajecca hetak.

Ad lipnia — žniŭnia i až da pieršych prymarazkaŭ vyrosłyja smaŭžy składajuć prazrystyja, kruhłyja jaječki ŭ kučkach, ad 15 da 25 štuk, siarod kareńniaŭ kapusty, u prykaraniovaj ščaści kaliva bulby, pad hrudkami ziamli ŭ azimyja pasievy i t. p. Adzin smoŭž praz svajo žyćcio moža złažyć bolš 200 jaječak.

U ciopłuju vosień, užo pa 3—4 tydniach, z jaječak vykloŭvajucca maładyja smaŭžy.

U chałodnuju vosień smaŭžy nia vykloŭvajucca, a jaječki zimujuć až da viasny.

Vyrosłyja i maładyja smaŭžy zimujuć taksama pad hrudkami ziamli, listami, u ščylinach hleby i inšych padobnych chavankach. Na choład jany vielmi adpornyja. Pieramierzłyja i abledzianiełyja paśla adtajeńnia jznoŭ ažyvajuć.

U traŭni — červieni z pierazimavaŭšych jaječak vychodziać maładyja smaŭžy i adrazu pačynajuć svaju škodnuju rabotu. Praz $1^1/_2$ miesiaca jany robiacca ŭžo vyrosłymi.

Letam smaŭžy žyvuć na miežach, kaniušynie, bierahoch lasoŭ, pustošach i tady jany nia robiać tady bolšaj škody. Z prychodam vosieni smoŭž hety pierachodzić na maładuju ruń i niščyć maładyja, kvołyja listočki, vyjadajučy ŭ ich niaroŭnyja dzirki i na miejscy hustoj, zialonaj runi astajecca hołaje, čornaje pole.

Žarłočnaść smaŭža vialikaja. Kali jošć 30—40 štuk smaŭžoŭ na 1 kv. metr runi — niščać jaje na čysta. Niščać nia tolki ruń, źjadajučy jaje da samaj ziamli, ale i prarastajučyja zierni, nia minajuć taksama drenna zasiejenych ziarniat, pakinutych na pavierchni ziamli.

*Pry masavym razmnažeńni smaŭžoŭ pasievy byvajuć zusim źniščanyja.*

Paŭstaje pytańnie: čamu smoŭž, žyviačysia letam kaniušynaj, dziacielinaj, roznymi łuhavymi travami i inš. raślinami, katorych i ŭvosieni chapaje — čamu jon adnak-ža pierachodzić u hetu paru na ruń?

Nia trudna na heta adkazać. Uvosieni trava stareje i robicca hruboj, žorstkaj, a ruń tymčasam pačynaje tolki raści. Jana tady zialonaja, sočnaja i hetym samym lepšaja da jady.

Palavy smoŭž — škodnik načny. Sonca jon nia lubić i tamu ŭ suchija, jasnyja dni chavajecca ad jaho ŭ cień i vypaŭzaje na žyr razam z viačerniaj zaroj. Žyruje całuju noč, da ŭschodu sonca.

Adnak-ža ŭ pachmurnyja i daždžlivyja dni žyruje jon cełv čas. Žyravańnie jaho tryvaje

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—2.

až da pieršych prymarazkaŭ, kali jon układajecca na zimovy supačynak.

Jak kožny škodnik, tak i smoŭž maje svaich naturalnych vorahaŭ, a hetym samym sajuźnikaŭ čałavieka, u baraćbie z im.

Zaličajucca siudy: podtačy (*Sorex sp*), kraty, śvińni, hałuby kački, kury, špaki, varony, hračy i inšyja muchajedčyja ptuški, a taksama žaby i rapuhi.

Nia hledziačy na heta my nie pavinny złažyŭšy ruki čakać, kab samyja smaŭžavyja vorahi źniščyli hetych škodnikaŭ. Treba z svajej starany viaści baraćbu z hetym škodnikam, katory, dziakujučy svajmu skoramu razmnažeńniu, daŭžyni žyćcia*) i žyravańnia, i vialikaj žarłočnaści maje ŭsie varunki da taho, kab vystupić masava i stacca pošaściaj našaha kraju. Nia strašnyja jamu navat našyja vostryja zimy.

U nas dasiul nia było proby abličyć jahonyja škody, ale kab dać, chacia-b pryblizna, paniaćcie ab vialičyni jaho škodnaści, treba zahlanuć u savieckuju statystyku, katoraja kaža, što ŭ SSRR u 1928 h. hetym smaŭžom źniščana 200,000 ha zbažžovych pasievaŭ**)

Z hetaha vidać, što z im treba zmahacca, zmahacca rašuča i ŭporysta.

### Sposaby zmahańnia z palavymi smaŭžami.

1. Tamu što palavy smoŭž mienš napadaje na staršyja raśliny jak na maładyja, treba nie paźnicca z sievam aziminy.

2. U pachmurnyja dni smaŭžy znachodziacca na pavierchni ziamli i tamu barana vańniem paloŭ u takija dni niščacca taksama smaŭžy.

3 Valcavańniem paloŭ padčas sušy možna taksama źniščyć šmat smaŭžoŭ schavanych pad kamieńniami, ŭ ščylinach hleby i inšych chavankach.

4. Treba raśkidać pa poli i ŭ harodzie kamieńni, kavałki došak i inšyja padobnyja rečy, pad katorymi smaŭžy lubiać chavacca na dzień. Paśla hetyja prymanki treba pieraviartać, a smaŭžy—źbirać i niščyć***).

5. Dobrym sposabam niščeńnia smaŭžoŭ jość pasypańnie pola paraškom śvieža zhašanaj vapny. Biarecca na kožny hektar 900—1100 litraŭ hetkaj vapny, jakaja mocna ŭpivaje ŭ siabie vadu. Smoŭž, baroniačysia ad hetaha, vypuščaje śliź Pa 15—30 minutach treba pasypać vapnaj pole druhi raz,užyvajučy hetulkisama vapny, jak i prad tym. Smaŭžy, nia mohučy bolš vytvaryc dla svajej abarony ślizi — hinuć.

Najlepšyja vyniki buduć, kali heta zrobim ranicaj, u časie sušy Z vapnaj treba abchodzicca aściarožna: treba rassiavać jaje zaŭsiody z vietram! Nikoli prociŭ, kab nie zasypać sabie vačej; taksama nia možna datykać vačej brudnymi ad vapny rukami, a pa hetaj pracy tvar i ruki treba abmyć pierš alejem a paśla vadoj.

Zamiest vapny možna ŭžyvać superfosfatu.

6. Na poli treba rassiavać saletru, katoraja adciahavaje vadu i hetym samym škodzić smaŭžom. Saletra taksama padmacoŭvaje raśliny i pryśpiašaje ich rost. A treba pomnić, što mocnyja raśliny robiacca tym samym bolš adpornymi i mienš pažadanymi dla smaŭžoŭ.

7. Treba raśkidać na poli atrutu (kavałki morchvy, harbuzoŭ, namočanyja ŭ žyžcy paryžskaj zieleni z cukram) i apyrskivać paryžskaj zieleniaj*) varyva.

8. Achova źviaroŭ-vorahaŭ palovaha smaŭža moža taksama značna pryčynicca da źniščeńnia hetaha škodnika..

*) Vyrosły smoŭž žyvie kolki hadoŭ.

**) Treba zaciemić, što ŭ Uschodniaj Biełarusi palavy smoŭž jość vielmi pavažnym škodnikam, daloka bolšym jak pakuł što ŭ nas.

***) Smaŭžy ablityja varam mohuć być dobrym kormam dla kurej, kačak, husiej i inš. chatnich ptušak, a taksama dla śviniej.

*) Ab pryhatavańni paryskaj zieleni hladzi „Samapomač" № 5, 1935 h.

## Наша пошта.

Інж. А. Шах: Атрымалі 20 зл., чакаем весткі, як і куды іх падзяліць. „Калосьсе" (дзьве кніжкі) высланы. Адазвецеся. прывітаньне.

Фэл. Гры—чу: гэта справа відаць, знайшлася аж на паседжаньні К. Рады—глядзеце „koop-hasp. nav'ny". Але тымчасам адказу ня маем.

Б. Л—вічу: дзесятка „Самапомачы" каштуе 12 зл., на чалавека тады выпадзе толькі 1 20 зл.

Чачык: прошлыя нумары „Самапомачы" Вам высланы. А цяпер таксама будзем Вам рэгулярна яе пасылаць.

Міх. Д., Л. Ш—ка і Г. Н—му пробныя нумары высланы. Дальшыя нумары будзем высылаць толькі як атрымаем падпіску. Грошы да нас найвыгадней пасылаць праз П.К.О., № конта 180.485; або „разрахунковым пераказам," № картотэкі 40.

А. Дав—чу: Аб падшуківаньні сяўбы знайдзеце ў сяньняшняй „Самапомачы." У справах пчалярскіх зьвярнецеся паводле адрэсу: Коопэрат „Пчала," Вільня, Каралеўская 3—8.



*УВАГА!* *УВАГА!*

*Цпы рэд. «Самапомачы» вядзецца аддзел праўных парадаў, якім кіруе безінтэрасоўна беларуская адвакацкая сіла. Асобы, якія маюць якісь пытаньні, павінны іх ясна і выразна напісаць на пісьме і прыслаць у нашу рэдакцыю. Адказы — невялікія будуць друкавацца ў «Самапомачы». На адказы большыя трэба далучыць паштовую марку за 25 грашоў.*

*Рэдакцыя „САМАПОМАЧЫ"*

